ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№7 (28) ліпень 2013 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны



Кардынал Жан-Луі Таран сярод пілігрымаў. *Фота catholic. by*

# ЧАС СВЕДЧАННЯ

## У Будславе на фэст сабралася 40 тысяч пілігрымаў

**Кожны раз падчас святкавання Будслаў для мяне ўяўляецца астраўком шчасця. Не, гэта не значыць, што ў Беларусі кругом беды і трагедыі, і толькі ў Будславе добра. Проста Будслаў – гэта святое месца, дзе дзейнічае Божая ласка, дзе адчуваецца плён малітвы мінулых пакаленняў і сённяшніх пілігрымаў. У Будславе немагчыма быць няшчасным.**

**кс. Віктар Місевіч**

Абраз Маці Божай Будслаўскай, які вось ужо 400 гадоў збірае паломнікаў, прысутнасць рэліквій св. Тэрэзы ад Дзіцятка Езус на свяце, сустрэча з пасланцом Папы Францішка кардыналам Жанам-Луі Таранам – усё гэта робіць шчаслівым верніка. Гэтае шчасце павялічваецца ад таго, што такі самы духоўны ўздым і радасць бачацца і на тварах іншых пілігрымаў.

Будслаў натхняе і перамяняе. Гэта адчуваецца па новых песнях, складзеных таленавітымі пілігрымамі. Бачыцца па клопаце манахаў-бернардынцаў – гаспадароў санктуарыя. Нават ветлівасць і карэктнасць міліцыянтаў хочацца растлумачыць не проста выкананнем інструкцыі начальства, а чароўным дзеяннем Божай ласкі.

**Сорак тысяч чалавек прыехалі і прыйшлі ў Будслаў да цудатворнага абраза Божай Маці. Гэта было зроблена без нейкага адміністрацыйнага рэсурсу, без прымусу, у поўнай свабодзе. Інакш і не можа быць. Хрысціянства – гэта рэлігія свабодных людзей, якія станоўча адказваюць на Хрыстовы заклік пайсці за Ім.**

Пра такі заклік прыпомніў маладым католікам кардынал Жан-Луі Таран. Ён сказаў: “Дарагая моладзь, Касцёл на гэтай зямлі вызваліўся ад пераследу коштам вялізных пакутаў. Дзякуючы тым людзям, якія сталі сапраўднымі мучанікамі за веру, Вы сёння збіраеце плён гэтага скарбу святасці”. Кардынал падкрэсліў, што надышоў час сведчання маладых хрысціян Беларусі. Ён таксама заахвоціў прысутных святароў і біскупаў даваць больш магчымасці маладым вернікам рэалізаваць сябе ў Касцёле.

Сведчыць пра Хрыста можна, калі маеш з Ім сувязь. Пра пяціхвілінную штодзённую малітву расказаў слухачам пасланнік Папы. Ён заахвоціў прысутных пяць хвілін на працягу дня пабыць з Богам сам-насам з Евангеллем у руках. Напэўна, больш адважна будуць сведчыць пра Хрыста тыя, хто атрымаў сакрамант бежмавання ў Будславе з рук біскупаў Антонія Дзям’янкі і Казіміра Вялікасельца.

Радуе, што дзяржаўныя ўлады разумеюць важнасць такой падзеі, як святкаванне 400-годдзя абраза Маці Божай Будслаўскай. Прысутнасць іх прадстаўнікоў пацвярджае гэта. Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Леанід Гуляка агучыў прывітальнае слова Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Выступіў і павіншаваў вернікаў са святам старшыня Мінскага аблвыканкама Барыс Батура, які падарыў ад імя беларусаў кардыналу Тарану фрагмент слуцкага паса.

Сёння ніхто не сумняваецца, што Будслаўская святыня – нацыянальны скарб. Менавіта таму дзяржава зацікаўленая ў якасным правядзенні рэстаўрацыйных работ у санктуарыі і фінансава дапамагае ў гэтым.

Будслаў яднае людзей розных канфесій. Шмат прысутнічала братоў праваслаўных, ад імя якіх выступіў протаіерэй Аляксандр Шымбалёў.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, прамаўляючы да пілігрымаў, выказаў надзею, што Беларусь сапраўды дзякуючы намаганням вернікаў і заступніцтву Маці Божай будзе Белай Руссю, гэта значыць, Святой. Ён таксама нагадаў прысутным, што кардынал Жан-Луі Таран абвясціў усяму свету імя Папы Францішка. Арцыбіскуп, звяртаючыся да пасланніка Папы, выказаў вялікую надзею, што Кардынал Таран будзе тым, хто паспрыяе прыезду Папы Францішка ў Беларусь. Адказваючы на гэта, ватыканскі іерарх запэўніў, што праз тыдзень ужо сустрэнецца з Папам і перадасць гэтае запрашэнне. На абяцанне кардынала шматтысячны натоўп адказаў авацыямі.

Як сказаў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, будслаўскі санктуарый – гэта сэрца Касцёла ў Беларусі. Гэтае сэрца жывое дзякуючы вернасці Богу мінулых пакаленняў і дзякуючы гарачай малітве цяперашніх вернікаў. Няхай яно б’ецца наступныя стагоддзі, яднаючы людзей і робячы іх шчаслівымі.



## Увага! Падпіска!

**Дарагія сябры!**

Заахвочваем вас падпісацца на “Каталіцкі Веснік”. Кошт падпіскі на месяц – **3000 рублёў**, на тры месяцы – **9000 рублёў**, на пяць месяцаў – **15000 рублёў**. Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні “Белпошты”.

Наш падпісны індэкс 63783

Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл. “Каталіцкі Веснік” таксама можа быць добрым падарункам вашым блізкім. Падпішыце на яго сваіх сяброў і падарыце ім Добрую Вестку!

***Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”***

**Гістарычнасць Езуса: ці верыць фактам?**
Старонка 6



**Баранавічы**
Пра Катэхетычны каледж чытайце на стар. 3



**Мосар**
Пра фэст у парафіі чытайце на стар. 8



**Нравственность**
Почему нужно избегать оплодотворения в пробирке? Стр. 2



**Лучай**
Свята сям’і
Стар. 4



# Счастливые мамы или больные дети?



**В прошлом году у брестчанки после ЭКО родилась четверня. Во время беременности матери предлагали сделать редукцию (сократить количество плодов), но она отказалась. Трое деток умерли, а четвертая девочка родилась слепой. Белорусский портал TUT.BY разбирался, что страна получает в итоге развития программы ЭКО (экстракорпоральное оплодотворение – оплодотворение в пробирке): счастливых мам или больных детей?**

### ЭКО в Беларуси

В Беларуси 1% от всех рожденных детей появляются на свет после искусственного оплодотворения, это около 900-1000 в год.

Женщина, которая идет на ЭКО, имеет ряд проблем со здоровьем, чаще всего у нее нарушена функция деторождения. «60% женщин, которым в Беларуси провели ЭКО, до искусственного оплодотворения делали аборт», – рассказывает научный сотрудник лаборатории клинической неонатологии РНПЦ «Мать и дитя», педиатр-неонатолог высшей категории, исследователь, кандидат медицинских наук Инесса Паюк.

Средний же возраст белорусок, которые делали искусственное оплодотворение, – 32-35 лет. По медицинским меркам в нашей стране – это возрастные мамы.

К тому же, чтобы поддержать и выносить искусственно подсаженный плод, женщина принимает большое количество гормонов, а из-за прошлых неудачных попыток пребывает в постоянном стрессе.

### Последствия ЭКО для здоровья ребёнка

Дети из пробирки чаще рождаются недоношенными, у них ниже масса тела при рождении.

Проведенные в Австралии исследования показывают, что по сравнению с детьми, зачатыми естественным способом, у детей, зачатых с помощью вспомогательных репродуктивных технологий, частота пороков составляет от 5 до 7% (в популяции – 3-5%).

Исследователи в Швеции изучали детей, рожденных при помощи ЭКО за период с 1982 по 2001 г.г. Более чем у 42% были выявлены врожденные аномалии развития.

Опубликованные в 2008 году результаты метаанализа статистических данных, проведенного американскими учеными, показали повышение в 2-4 раза риска таких пороков, как «заячья губа», дефекты межпредсердной и межжелудочковой перегородки сердца, а также пороки развития желудочно-кишечного тракта у детей, рожденных в результате ЭКО.

Одно из наиболее крупных исследований на эту тему было проведено в Дании. Оно показало, что у 77% женщин роды начались после 25-й недели беременности (доношенной беременность считается после 38 недель. – TUT.BY). Преждевременныероды начинались и у 12,2% мам с одним эмбрионом, но особенно часто преждевременно рождались двойни (43,8%) и тройни (83,9%).

Инесса Паюк написала диссертацию по здоровью детей. Исследователь наблюдала 150 новорожденных, появившихся на свет после ЭКО в РНПЦ «Мать и дитя»:

- 2 ребенка родились мертвыми;
- 70% деток родились от многоплодной беременности;
- 59% детей родились недоношенными;
- недоношенными родились абсолютно все двойни и тройни;
- дети, рожденные после ЭКО, меньше по массе тела – на 10%.

*По материалам TUT.BY*

**От редакции.** Следует напомнить, что Католическая Церковь категорически осуждает ЭКО. Католики не должны прибегать к такого рода услугам. Как видно из статьи, кроме нравственной ответственностиэкстракорпоральное оплодотворение приводит ещё и к серьёзному риску родить нездорового ребёнка. Наиболее подходящий выход в сложной ситуации бесплодия – это усыновление детей из приютов и интернатов.



# Подвиг матери

**В Италии все больше говорят о Кьяре Петрилло-Корбелла (Chiara Corbella). Как и святая Джанна Беретта-Молла, она отдала жизнь за своего ребенка.**

«Будет ли у нас другая блаженная?», – этот вопрос задают в итальянской прессе именно сейчас, в первую годовщину смерти Кьяры Петрилло-Корбелла. К могиле итальянской матери, похороненной на кладбище Верано в Риме, приходят и приезжают тысячи людей. Тысячи людей также просят ее мужа о молитве и на специальной интернет-странице и благодарят за полученные при посредничестве Кьяры благодати и оздоровления.

Кьяра Корбелла, 28-летняя мать троих детей, отдала жизнь за своего ребенка. Вполне возможно, что если бы она прервала беременность, когда у нее диагностировали рак, то сегодня она была бы жива. Однако Кьяра не только не позволила убить своего сына, но и отказалась от терапии и обезболивающих средств, чтобы не навредить ребенку.

Весь мир, но прежде всего Италия, узнали об истории Кьяры в июне 2012 года. «Кьяра Петрилло-Корбелла – вторая Беретта-Молла», – писали тогда газеты. Похороны 28-летней итальянки транслировали через интернет. В какой-то мере это напоминало свадьбу: римская церковь Santa Francesca Romana была переполнена, святую Мессу концелебровало более 100 священников в белых литургических одеяниях. Теперь в подобной атмосфере в Santuario del Divino amore в Риме прошли торжества в память о смерти Кьяры. В торжествах в переполненном санктуарии принял участие ее муж Энрико и спасенный благодаря жертве Кьяры сын Франческо.

«Кьяра пребывает вместе с нами. Кьяра научила нас жить тайной страдания», – сказал отец Фабио Россини, ответственный за призвания в Римской епархии, который сослужил св. Мессу. Священник подтвердил, что вопрос о внесении постулата о начале беатификационного процесса Кьяры уже рассматривается.

Еще при жизни Кьяра имела «славу святой». В последний год она свидетельствовала во многих церквях Италии: «Господь дал нам детей. Но каждого ребенка он позволил подержать на руках лишь несколько часов их жизни, окрестить их, а затем попрощаться с ними».

Двое детей Кьяры – Мария Грация Летисия и Давидо Джованни – умерли после родов. Мария, у которой диагностировали отсутствие мозга еще во время беременности, а также Давид, который родился без рук и ног. Каждый раз врачи предлагали Кьяре сделать аборт, но женщина отказывалась. Дети умирали на ее руках через полчаса после трудных и долгих родов.

«Всем матерям я хочу сказать, что самое главное – это дар, которым является ребенок, дар жизни, а не то время, которое ты проживаешь с ним. Эти полчаса с Марией и Давидом было самыми лучшими моментами моей жизни», – повторяла Кьяра на встречах в церквях».

«Последняя беременность стала для меня неожиданностью, – говорила она, уже будучи больной. – Франческо оказался здоровым ребенком. Но в этот раз для меня был подписан приговор. Такова Божья воля. Я надеюсь, что встречусь с моими двумя ангелочками».

*KATOLIK.ru*

Камаі

# Святыя Місіі ў Камаях

**У касцёле св. Яна Хрысціцеля ў Камаях 24 чэрвеня, якраз у час парафіяльнага фэсту, распачаліся Святыя Місіі, якія адбываюцца адзін раз у дзесяць гадоў. Праводзіў іх кс. Андрэй Кулік з парафіі Канстанцінава Глыбоцкага раёна.**

Парафіяне пад кіраўніцтвам кс. Яцэка старанна рыхтаваліся да гэтай падзеі. Вакол касцёла выкладзена з колатага камення дарога для працэсій, наведзены парадак на магілках, у вокнах дамоў выстаўлены абразы, у вёсках вывешаны планы правядзення місій. Кожны дзень служыліся дзве св. Імшы з навукай. Былі прамоўлены казанні для дзяцей і моладзі, для сужэнцаў, для хворых і тых, хто мае патрэбу. Створана супольнасць дапамогі тым, хто церпіць у чыстага, у якую запісалася 60 чалавек. Асвечаны прыдарожныя крыжы ў вёсках Сакуны, Навасёлкі, Каралінова, адноўлена прыгожая традыцыя – частаванне прысутных хлебам, асвечаным разам з крыжам.

Кожны дзень праграма была насычаная і цікавая. Часта св. Імшу ўпрыгожваў спеў пад гітару дзяцей з летніка. Усім спадабалася інсцэніроўка пра 10 паннаў. Яна была вельмі прыгожай і павучальнай.

Місіі прайшлі цікава і змястоўна, з вялікай карысцю для духоўнага развіцця парафіі.

За іх арганізацыю і правядзенне выказваем шчырую падзяку кс. Яцэку і кс. Андрэю.

*Парафіяне камайскага касцёла св. Яна Хрысціцеля, Пастаўскі раён*

# Сумная статыстыка

Паводле колькасці разводаў Беларусь займае другое месца ў свеце, а каэфіцыент разводаў у нашай краіне складае 4,1 на тысячу жыхароў. Пра гэта паведаміла журналістам аўтар "Аналізу тэндэнцый шлюбнасці і разводаў насельніцтва Рэспублікі Беларусь з 1946 па 2010 гады", доктар геаграфічных навук БДУ, прафесар Кацярына Анціпава 11 чэрвеня на прэзентацыі даследавання ў Мінску.

У рэйтынгу краін паводле ўзроўню разводаў, складзеным ААН па выніках 2011 года, Беларусь саступае толькі Расіі, дзе рэгіструецца 4,7 развода на тысячу насельніцтва. На трэцім месцы размясцілася Латвія з каэфіцыентам 4.

У канцы рэйтынгу апынуліся Македонія і Чарнагорыя з каэфіцыентам 0.8, Ямайка – (0.7), а замыкае рэйтынг Мальта (0.1).

*nn.by*





# ВЫПУСКНЫ ВЕЧАР У КАТЭХЕТЫЧНЫМ КАЛЕДЖЫ

**15 чэрвеня адбыўся выпускны вечар у Катэхетычным каледжы імя Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах. 16 катэхетаў атрымалі дыпломы з рук біскупа Антонія Дзям'янкі.**

**Ганна Ліцкевіч**, *тэкст;*
**бр. Карнэлій Консэк, Ганна Ліцкевіч**, *фота*

Распачалося мерапрыемства Святой Імшой, якую ўзначаліў біскуп Пінскі Антоні Дзям'янка. У гаміліі іерарх нагадаў выпускнікам, якую важную місію яны павінны выконваць: "Катэхет дзеліцца не толькі ведамі, але і "багаццем сваёй чалавечнасці". Сярод дзяцей і моладзі існуе вялікае запатрабаванне персанальных узораў, катэхетаў, якія становяцца для іх сапраўднымі майстрамі і праваднікамі". Біскуп пажадаў тым, хто ў гэтым годзе скончыў каледж, выкарыстаць свае веды "ў поўні там, дзе Божы Провід вызначыў служэнне Богу і іншаму чалавеку".

Падчас афіцыйнай часткі дырэктар каледжа кс. Алег Сількевіч зачытаў даклад аб працы і дасягненнях навучальнай установы за мінулы год. Не абышлося і без слоў удзячнасці кіраўніцтву і выкладчыкам. Напрыканцы ў руках у выпускнікоў былі дыпломы, а на вачах – слёзы.

Каб трошкі развесяліць выпускнікоў, студэнты малодшых курсаў арганізавалі для іх вясёлы вечар у выглядзе сусветнага падарожжа. Прадстаўнікі Польшчы, Украіны, Бельгіі, Іспаніі, Грэцыі, ЗША і Мадагаскара радавалі гасцей гульнямі, вясёлымі пытаннямі, песнямі і танцамі. Але на гэтым святочны дзень не скончыўся: познаў вечары студэнты, выпускнікі і выкладчыкі каледжа сабраліся на вуліцы і ўсе разам запусцілі нябесныя ліхтарыкі. Яны палацелі высока-высока, асвячаючы начное неба. Гэта было вельмі сімвалічна: выпускнікі каледжа, як тыя ліхтарыкі, ідуць у гэты вялікі свет, каб несці Слова Божае іншым людзям.

Катэхетычны каледж ім. Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах чакае новых студэнтаў. Набор адбываецца ў адну з дзвюх груп па спецыялізацыі на выбар: катэхетыка (для ахвотных працаваць катэхетам) і агульная тэалогія (без права выкладання катэхізіса). Прыём дакументаў на паступленне адбываецца да 7 верасня 2013 г. Залічэнне – на падставе экзамену з катэхізіса і вуснай кваліфікацыйнай размовы. Больш інфармацыі на сайце каледжа college.catholic.by

Дунілавічы

# Радасць ад сустрэчы

**У дунілавіцкім касцёле 25 чэрвеня адбылося чарговае спатканне моладзі Дунілавіцкай, Варапаеўскай і Лучайскай парафій.**

**Аляксей Емельянаў**

Гэтае спатканне падчас канікул сабрала маладых людзей, якія дзеля супольнай малітвы і разважання над Божым Словам пакінулі свае камп'ютары і тэлевізары.

Спачатку адбылася канферэнцыя на тэму сяброўства, якую падрыхтаваў кс. Чэслаў Куцмеж. Езус Хрыстус прамовіў да апосталаў: "Я ўжо не называю вас слугамі, але сябрамі. Бо слуга не ведае, што робіць гаспадар, а сябра ведае". Чалавек таксама павінен знаходзіць найлепшых сяброў, якія дапамогуць у цяжкую хвіліну.

Пасля канферэнцыі была магчымасць прыступіць да споведзі, прыняць удзел у св. Імшы.

Потым удзельнікаў спаткання чакалі смачная вячэра, конкурсная праграма, гульні і спевы.

Вялікі дзякуй кс. Паўлу Самсонаву і кс. Чэславу Куцмежу, с. Мар'яне Гроць за арганізацыю гэтай сустрэчы і супольную малітву . З нецярпеннем будзем чакаць чарговага спаткання ў Лучайскай парафіі.

# Праграма сустрэчы моладзі ў Івянцы

**З 26 па 28 ліпеня 2013 г. у мястэчку Івянец Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі адбудзецца малітоўная моладзевая сустрэча, ужо шостая па ліку, якая стала добрай штогадовай традыцыяй у жыцці Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Мерапрыемствы, запланаваныя сёлета ў межах сустрэчы, будуць праходзіць пад дэвізам "ІДЗІЦЕ І НАВУЧАЙЦЕ ЎСЕ НАРОДЫ" (Мц 28, 19).**

**26 ліпеня 2013 г. пятніца**

**15.00** – рэгістрацыя ўдзельнікаў МСМ
**17.30** – падрыхтоўка да Святой Імшы
**18.00** – Святая Імша, адкрыццё МСМ. Цэлебруе кс. бп. Антоні Дзям'янка (касцёл)
**19.30** – вячэра
**20.30** – спатканне ў вялікай зале (інтэграцыйнае спатканне праводзіць майстэрня)
**21.00 - 22.00** – прагляд фільма "Калумбія – сведчанне для свету"
**22.00 - 22.45** – выступленне рэжысёра Дамініка Тарчынскага
**22.45** – вячэрняя малітва – Апэль (майстэрня, адказны – святар)
**23.15** – адпачынак

**27 ліпеня 2013 г. субота**

**8.30** – снеданне
**9.30** – Ютрань (касцёл, праводзіць майстэрня, адказны – святар)
**10.00 - 10.45** – першая канферэнцыя "Ідзіце і навучайце" (вялікая зала). Прамаўляе спад. Ян Будзяшак
**10.45 - 11.00** – пытанні да дакладчыка
**11.00 - 11.30** – перапынак
**11.30 - 12.45** – круглыя сталы:
– In vitro – кс. Станіслаў Вашкевіч
– Сексуальнае выхаванне моладзі – спадар Уладзіслаў Валаховіч
– Споведзь – а. Алег Шэнда
– Сумненне ў веры – кс. Аляксандр Яшэўскі
– Мая адказнасць за Касцёл – сп. Дамінік Тарчынскі
– Выклікі Новай Евангелізацыі – а. Раман Шульц
– СМІ у Новай Евангелізацыі – кс. Валерый Марціноўскі
**12.45 - 13.30** – справаздача па працы круглых сталоў (вялікая зала, 5 хв.)
**13.30 - 14.00** – дыялог з біскупамі (вялікая зала)
**14.00 - 15.30** – абед, адпачынак
**15.30 - 15.45** – сустрэча рэліквій св. Тэрэзы (перад касцёлам)
**15.45 - 16.10** – другая канферэнцыя "Жыццё і Духоўнасць св. Тэрэзы" (касцёл). Прамаўляюць кармеліты
**16.10** – музычная паўза
**16.15 - 16.40** – трэцяя канферэнцыя "Перэгрынацыя рэліквій св. Тэрэзы" (касцёл). Прамаўляюць кармеліты
**16.40** – музычная паўза
**16.45 - 17.30** – Пакутнае набажэнства. Прыватнае ўшанаванне рэліквій (касцёл, магчымасць споведзі). Праводзяць кармеліты
**17.30 - 18.00** – падрыхтоўка да Святой Імшы
**18.00 - 19.30** – Святая Імша (галоўная сцэна). Цэлебруе Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч. У працэсіі выносяцца рэліквіі
**19.30 - 20.30** – вячэра
**20.30 - 21.30** – Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту (касцёл, рыхтуе моладзь Гродзенскай дыяцэзіі, адказны кс. Антоні Грэмза)
**22.00 - 24.00** – канцэрт (галоўная сцэна) – а. Стэн Фартуна, блаславенне
**24.00** – адпачынак

**28 ліпеня 2013 г. нядзеля**

**8.00** – падрыхтоўка галоўнай сцэны. Адказны – а. Лех Баханэк
**8.30** – снеданне
**9.00** – гадзінкі да Божай Маці (на галоўнай сцэне, Пінская дыяцэзія)
**9.30** – трансляцыя з Сусветнага Дня Моладзі ў Рыа-дэ-Жанейра (на галоўнай сцэне)
**10.00** – падрыхтоўка да Святой Імшы (на галоўнай сцэне)
**10.30** – Святая Імша. Перанясенне рэліквій на галоўную сцэну. Цэлебруе Апостальскі Нунцый Арцыбіскуп Клаўдзіё Гуджэроці. Завяршэнне МСМ. Развітанне з рэліквіямі св. Тэрэзы
**12.00** – абед (падчас рэгістрацыі пазначыць, хто застаецца на абед)

# Катэхетычны каледж запрашае!

**Катэхетычны каледж у Баранавічах аб'яўляе набор студэнтаў на новы 2013/2014 навучальны год. Прыём дакументаў – да 7 верасня 2013 г.**

Пры паступленні абітурыенту належыць вызначыцца са спецыялізацыяй. Набор студэнтаў адбываецца ў адну з дзвюх груп па спецыялізацыі на выбар:

1) **Катэхетыка** (для ахвотных працаваць катэхетам);

2) **Агульная тэалогія** (без права выкладання катэхізіса).

Спецыяльнасць **«Катэхетыка»** прадугледжана для асобаў, якія жадаюць пасля заканчэння ўстановы працаваць у парафіях у якасці выкладчыка катэхізіса (катэхета). Студэнты гэтай групы, акрамя вывучэння тэалогіі, маюць магчымасць паглыбленага засваення тээрэтычных асноваў і практычных метадаў катэхізацыі, якія існуюць у Каталіцкім Касцёле.

Спецыяльнасць **«Агульная тэалогія»** прадугледжана для асобаў, якія не маюць намеру працаваць катэхетамі. Гэтая спецыялізацыя разлічана на людзей, што жадаюць паглыбіць сваю веру і веды, вывучаючы каталіцкую тэалогію. Акрамя гэтага, студэнты змогуць пашырыць сваё ўяўленне пра рэлігійныя аспекты гуманітарных навук.

**Дакументы, неабходныя для паступлення ў каледж:**

- заява на імя дырэктара (напісаная ўласнаручна);
- біяграфія (напісаная ўласнаручна);
- рэкамендацыйны ліст ад пробашча парафіі;
- копіі пасведчанняў аб сакрамантах хросту і канфірмацыі (мірапамазанні);
- 2 фотаздымкі (3х4);
- копія атэстата аб агульнай сярэдняй адукацыі або іншыя дакументы аб адукацыі;
- копія пашпарта;
- медыцынская даведка па форме 086.

**Залічэнне адбываецца на падставе экзамену з катэхізіса і вуснай кваліфікацыйнай размовы.**

Навучанне ў каледжы працягваецца 3 гады і адбываецца ў форме двухдзённых з'ездаў (2 разы на месяц). Установа забяспечвае студэнтаў бясплатнай адукацыяй, харчаваннем і пражываннем.

**Кантакты**
**Адрас:** вул. Т. Шаўчэнкі, 6, 225411 г. Баранавічы
**Тэлефоны:** +375 (0163) 46 77 93
+375 (0163) 46 56 06;
+375295135792 (МТС)
**Факс:** +375 (0163) 46 94 74
**E-mail:** callegge@gmail.com

# Арт-тэрапія на Браслаўскіх азёрах

**Баішся будучыні і адказнасці? Ты самотны? Адчуваеш агрэсію? Прыедзь на арт-тэрапію! Табе абавязкова дапамогуць!**

**Працоўная моладзь запрашаецца да ўдзелу ў праекце "Арт-тэрапія", тэма якога – "Свята кожны дзень". Мерапрыемства будзе праводзіцца на тэрыторыі базы адпачынку "Чайка" на Браслаўскіх азёрах з 11 па 17 жніўня 2013 г.**

Многія маладыя людзі, нягледзячы на шматлікія таленты ад Бога, маюць адмоўны вобраз самога сябе і Пана Бога, баяцца будучыні, адказнасці, жыцця. Вельмі часта выйсце з такіх сітуацый чалавек шукае ў алкаголі, адзіноце, віртуальных знаёмствах у інтэрнэце або праяўляе свой негатыўны эмацыянальны стан праз агрэсіўныя паводзіны ў адносінах з блізкімі.

"Арт-тэрапія" – гэта магчымасць навучыцца спраўляцца з негатыўнымі эмоцыямі і перажываннямі праз мастацтва: малюнак, спевы, танец. Заняткі будуць праводзіць мастак, псіхолаг, рэжысёр і тэолаг. Удзельнікі змогуць індывідуальна паразмаўляць з псіхолагам або са святаром. Акрамя практычных заняткаў, прадугледжаны шпацыры на свежым паветры, вольны час, калі можна загарэць ці купацца ў возеры Дрывяты, а таксама ўсіх чакаюць сюрпрызы. Ахвотныя змогуць прыняць удзел ва ўрачыстасцях Маці Божай Валадаркі Азёраў, якія ў гэтым годзе адбудуцца 17 жніўня.

**Мэта праекту** – зразумець, што кожны дзень, які дае нам Бог, – свята. "Свята кожны дзень" – гэта магчымасць адпачыць і аднавіць свае духоўныя і эмацыянальныя сілы.

**Кошт удзелу – 200 тысяч бел. рублёў.**

Запісацца і атрымаць падрабязную інфармацыю можна па тэлефонах ці праз e-mail:
+375 44 7938299, ludkab1984@gmail.com, **Людміла**
+375 29 5149121, agagata@mail.ru, **Агата**

# Алена Пшэўлоцкая: "Мне свет здаўся раем"



**Алена Пшэўлоцкая – верніца парафіі ў Празароках, пражывае ў в. Зябкі Глыбоцкага раёна. Цяжка захварэла ў 31 год. Сем гадоў ляжала прыкаваная да ложка і дваццаць гадоў не магла стаць на ногі. Сваё выздараўленне звязвае выключна з Божай ласкай.**

**– Спадарыня Алена, як сталася, што вы так цяжка захварэлі?**

– Ведаеце, у мяне з дзяцінства было слабае сэрца. Аднак хвароба наступіла раптоўна. Гэта было нечакана для ўсёй нашай сям'і. Я тады жыла ў Наваполацку. Раптам адчула слабасць. І так пачаліся мае пакуты.

**– Як адрэагавалі блізкія на Вашу хваробу?**

– Я ўдзячная маім бацькам за тое, што былі пры мне. А вось муж прывёз мяне са шпіталя на хутар да бацькоў і сказаў: "Забірайце яе. Мне яна не патрэбная". І гэта пасля дзесяці гадоў сумеснага жыцця. Ніколі не магла падумаць, што ён так зробіць. Крыўдна і тое, што ён зусім забыўся пра дзяцей. Калі я захварэла, маёй дачушцы было шэсць гадоў, а сыну – толькі дзесяць месяцаў. Муж наведаў іх хіба пару разоў.

**– Што казалі дактары пра Вашу хваробу?**

– Яны толькі рукамі разводзілі. Канчатковага дыягназу так ніхто і не паставіў. Адны казалі, што ў мяне дэпрэсіўны неўроз, іншыя казалі пра сэрца.

**– А як тады Вы лячыліся?**

– Сваё выздараўленне звязваю выключна з Божай дапамогай. Калі ляжала ўсе гэтыя гады, пастаянна малілася. Стаoралася, каб у сэрцы не было крыўды ні на кога. Ужо тады навучылася дзякаваць Богу за кожны пражыты дзень. Новы світанак для мяне быў падарункам. Я была шчалівая, што магу бачыць сваіх дзетак, што не памёрла. Хоць, калі ляжала ў рэанімацыі, чула, што дактары не давалі мне ніякай надзеі. Адведвалі мяне і святары з парафіі. Я ў іх спавядалася і прымала Святую Камунію.

**– Як Вы маліліся?**

– Першапачаткова малілася ў думках, таму што не магла нават гаварыць і варушыць рукамі. Малілася "Ойча наш", "Вітай, Марыя" і ў думках бласлаўляла сваіх дзяцей, дом, бацькоў, увесь свет. Па радыё разам з мамай слухалі Св. Імшу. Ведаеце, малітва – гэта вялікая праца. Лічу, што да яе трэба ставіцца вельмі ўважліва, старацца, каб ніякія думкі не перашкаджалі.

**– Вашае выздараўленне адбылося таксама раптоўна, як і захворванне?**

– Не. Мне паступова рабілася лепш. Яшчэ і цяпер я хаджу з кіёчкам. Ад самага цяжкага стану, калі ў мяне былі пролежні, да сённяшняга дня мінула дваццаць гадоў. Гэта вялікі адрэзак часу. Калі я ўпершыню з'явілася на людзях, у вёсцы многія мяне не пазнавалі і ў здзіўленні пыталіся: "Ты яшчэ жывеш?" На што я ім адказвала з усмешкай: "Не, туды я яшчэ не спяшаюся!" Я вельмі люблю жыць. І калі ляжала, прыкаваная да ложка, ні на хвіліну не задумвалася пра самагубства. Кожны дзень быў для мяне падарункам. Таму, праўду Вам кажу, не разумею маладых людзей, якія самі на сябе накладаюць рукі. Гэта так неразумна!

**– Што Вы адчувалі, калі ўпершыню змаглі выйсці на вуліцу?**

– Упершыню на вуліцы я была, калі яшчэ не магла хадзіць, але ўжо сядзела на ложку. Мае дзеці выцягнулі мяне летам з хаты на санках. Тады мне свет здаўся раем. Разумееце, гэтае адчуванне не перадаць на словах. Я многія гады праз акно бачыла сонца толькі зранку і галінку яблыні. На сённяшні дзень сама сабе задаю пытанне: "Як я магла ўсё гэта перажыць?" Шмат пра гэта думаю і прыходжу да высновы, што для свайго выздараўлення я зрабіла ўсё магчымае, а Бог зрабіў немагчымае.

**– Усё магчымае, напэўна, зрабілі і Вашыя бацькі?**

– Я шчыра Вам скажу, не ведаю, што было б са мною і з маімі дзецьмі, каб не мае мама і тата. Я ўдзячная Богу за маіх бацькоў. Гэта яны мне далі належнае выхаванне. І гэта яны выхоўвалі маіх дзяцей, калі я ляжала хворая. Я раскажу Вам адзін прыклад. Я ніколі не чула ад свайго таты матнага слова ні ў свой адрас, ні ў бок іншага. Мой тата быў чалавекам высокай асабістай культуры, быў вернікам, хадзіў у царкву. Мае бацькі навучылі мяне любові да Бога і да бліжняга. Навучылі быць аптымісткай. Таму мне добра ў любое надвор'е і любой парою.

**– У цяжкую хвіліну людзі не ведаюць, што рабіць, і гатовыя схапіцца за саломінку, каб выратавацца. Што Вы маглі б параіць ім?**

– Заўсёды трэба давярацца Богу. Я нават калі іду ў лес – малюся, перахрышчу сябе, перахрышчу лес і адступаюць усе страхі і непакоі. Калі мне нешта неабходна ад Бога, то я не прашу канкрэтна: "Божа, дай гэта або тое". Я кажу: "Зрабі, Божа, каб усё было добра." Бо цяпер гэта для мяне можа з'яўляцца дабром, а пазней ужо – не. А Бог найлепш ведае нашае жыццё і што нам больш патрэбна.

**– Напэўна, маеце нейкія мары і планы?**

– Якія планы? Я жыву кожным днём і радуюся гэтаму жыццю. Да мяне прыязджаюць дзеці, якія ўжо маюць свае сем'і. Хочацца, каб іх жыццё склалася добра. І хацела б набыць ноўтбук, каб мець сувязь са светам праз інтэрнэт. Я вельмі дапытлівы чалавек, і мне цікава пазнаваць новае.

**– Спадарыня Алена, прыміце самыя шчырыя пажаданні добрага здароўя ад нашай рэдакцыі. Хай Бог бласлаўляе Вас і Вашых блізкіх. Дзякуй за размову!**

– І Вам дзякуй.

*Гутарыў* ***кс. Віктар Місевіч***

# Сям'ю мацуе Хрыстус



**Быць шчаслівым у сямейным жыцці – мара кожнага чалавека. Уступаючы ў шлюб, маладыя людзі спадзяюцца, што іх сямейны агмень будзе пабудаваны з кахання і даверу. Але статыстыка сведчыць адваротнае: амаль кожная другая сям'я распадаецца. Як захаваць цяпло сямейных адносін, умець урэгуляваць узніклы канфлікт і прабачыць – на гэтыя і многія іншыя пытанні спрабавалі знайсці адказы сямейныя пары, якія сабраліся ў нядзелю, 30 чэрвеня, у лучайскім касцёле імя Юды Тадэвуша на Дзень сям'і.**

**Анна Анішкевіч**

Такое мерапрыемства па ініцыятыве пробашча касцёла ксяндза Мікалая Ліпскага ладзіцца тут ужо другі год. На гэты раз на сустрэчу да парафіян і гасцей прыехалі ксёндз Андрэй Сіповіч – пробашч кальварыйскага касцёла ў Мінску, які займаецца душпастырствам сем'яў, а таксама прадстаўнікі супольнасці "Сужэнскія сустрэчы" Валянціна і Уладзімір з Лагойскай парафіі.

Спачатку з дапамогай маладзі, якая падрыхтавала разважанні пра любоў Хрыста, прысутныя маліліся перад Найсвяцейшым сакраментам. Праз заступніцтва Святога Юзафа – апекуна каталіцкіх сем'яў – прасілі ў Бога заступніцтва для сваіх сем'яў, сем'яў дзяцей, унукаў, родных, знаёмых. Потым сваімі сведчаннямі пра сямейнае жыццё падзяліліся прадстаўнікі "Сужэнскіх сустрэч".

– Рух "Сужэнскія сустрэчы" заснаваны ў Польшчы і цяпер распаўсюджаны ў многіх краінах Еўропы, – расказвалі Валянціна і Уладзімір з Лагойска. – У Беларусі такія суполкі існуюць у Мінска-Магілёўскай, Пінскай і Гродзенскай дыяцэзіях. Праблемы рознага кшталту ёсць у кожнай сям'і. Не выключэнне і наша. Толькі вырашаць іх мы навучыліся спакойна і сумесна. Дапамагае ў гэтым і тое, што рэгулярна ўдзельнічаем у "Сужэнскіх сустрэчах". Сямейныя пары збіраюцца на рэкалекцыі з мэтай паглыблення і аднаўлення, а нярэдка і адбудовы сужэнскіх саюзаў. Сустрэчы праходзяць пачаргова ў розных гарадах дыяцэзій. Праграма іх вельмі насычаная. На працягу двух-трох дзён мы разам молімся, разважаем, гутарым паміж сабой, слухаем казанні святароў, якія займаюцца сямейнымі праблемамі, у іх шукаем адказы на актуальныя пытанні. Хацелася б бачыць на такіх сустрэчах і прадстаўнікоў з вашага рэгіёна. Віцебская дыяцэзія маладая, і мы спадзяёмся, што ў будучым тут таксама распачнецца такі рух. Таму сёння мы ў вас. Дзякуем ксяндзу Мікалаю за запрашэнне. Прыемна, што ён клапоціцца пра сем'і сваёй парафіі, і не толькі.

Сапраўды, на свяце ў Лучаі прысутнічалі сужэнцы-юбіляры як з Лучайскай парафіі, такі і з іншых. Напрыклад, з Дунілавіч, Пастаў, Глыбокага, Шаркаўшчыны. Сярод іх былі пары, якія пражылі разам ад 5 да 35 гадоў. Падчас Імшы яны аднавілі свае шлюбныя прысягі. Узяўшыся за рукі і гледзячы адно аднаму ў вочы, муж і жонка дзякавалі Богу за сумесна пражытыя гады, за ласкі, якія атрымалі, перапрашалі за крыўды, прасілі Божага бласлаўлення на будучае.

Ксёндз Андрэй Сіповіч паразважаў над каштоўнасцямі сямейнага жыцця. "Муж і жонка з гадамі часта не заўважаюць адно аднаго, – гаварыў святар. – Яны занятыя працай, іншымі справамі. І так мала часу ў іх на размову. Аналіз распаду сем'яў сведчыць пра тое, што менш за 30 працэнтаў сямейных пар, якія ў нядзелю і святы разам ідуць у касцёл на Святую Імшу, адважваюцца на развод. З тых, што моляцца разам раніцай і вечарам, на такі крок ідуць толькі два працэнты. Сем'і мацуе Хрыстус. Яго трэба запрасіць у сваё жыццё. У сям'і чалавек атрымлівае і першыя ўяўленні аб праўдзе і дабрыні, ён вучыцца любіць і быць любімым, а значыць – быць асобаю. Сям'я – гэта асноўны асяродак культуры жыцця. Не так складана знайсці час, каб усёй сям'ёй пайсці на нядзельную Святую Імшу. Прыклад бацькоў вельмі важны для дзяцей. Праз малітву варта шукаць у Бога адказы на свае пытанні, з Ім вырашаць свае духоўныя праблемы, вучыцца прасіць у Нябеснага Айца, цярпліва чакаць і верыць, што Ён любіць кожнага з нас, як адзінага, і ўсіх як, кожнага".

Святая Імша, што цэлебраваў ксёндз Андрэй, адправілася за сем'і-юбіляры. Затым адбыўся канцэрт. Сваім талентам парадаваў беларускі спявак Зміцер Бартосік.

# Пятры і Паўлы

**29 чэрвеня католікі ўсяго свету ўспамінаюць святых апосталаў Пятра і Паўла.**

**Гэты дзень асабліва радасны і для тых, хто носіць імя Пётр або Павел. Таму для чытачоў «Весніка» імяніннікі раскажуць, чым для іх адметнае гэта свята.**

*Падрыхтавала* ***Ірына ГРЭЙЦЬ***



**Пётр РУДКОЎСКІ:**

– Я святкую з часоў, калі быў яшчэ ў пялюшках. Прыгадваецца адзін момант з дзяцінства. 29 чэрвеня, гуляючы, капаў у панадворку нейкую ямку. Да мяне падыходзіць мая мама і кажа: "Не, сёння не трэба капаць (выконваць працу), паколькі свята – Пятра і Паўла, твае імяніны". Вы ведаеце, дзецям уласціва эгацэнтрычнае ўспрыманне свету. І тады ў мяне ўсталявалася перакананне, што 29 чэрвеня ёсць святам, бо гэта мае імяніны. І здзіўляўся, чаму мае імяніны святкуе ўвесь Касцёл (служыцца ўрачыстая Імша), а імяніны іншых, напрыклад, Гэлены, Люцыі, Віктара, амаль зусім не адзначаюцца ў Касцёле.

Але досыць хутка прыйшло асэнсаванне, у чым тут справа. Святы Пётр Апостал – герой гэтага дня, а я – яго падапечны. Так, нярэдка маліўся і малюся да яго. У юнацтве, памятаю, нават вершычак напісаў у яго гонар. Сымон-Пётр – вельмі цікавая постаць, цікавы таксама факт выбару менавіта яго на ролю скалы-падмурка. Зменлівы, падатлівы на страх, слабы,... але менавіта ён стаў «скалою», на якой Госпад пабудаваў Царкву. «Моц у слабасці ўдасканальваецца»...



**а. Пётр ФРАШТЭНГА:**

– У нашай супольнасці кармелітаў дзень імянінаў адзначаюць вельмі ўрачыста. Гэтак адбываецца і з маімі імянінамі, якія святкуем 29 чэрвеня, калі ўспамінаем святых Пятра і Паўла. Айцы, што працуюць у нашых дамах Беларусі, збіраюцца на Святую Імшу і адпраўляюць яе ў маёй інтэнцыі. Гэта найважнейшы момант святкавання. Гэты дзень асаблівы таксама і таму, што я маю такога Апекуна.

Мы шмат ведаем пра гэтага святога. Ён быў першым пасля Хрыста. Чаму? Бо моцна палюбіў. Успомнім Госпада, Які пытаў у Пятра пра любоў да Яго. Езус не пытае, ці верыць апостал у Яго. Але пытае, ці любіць. Таму, калі я малюся да святога Пятра, я прашу ў яго дапамогі, каб таксама палюбіць Госпада. Прашу таксама, калі грашу, каб даў мне адвагі ўстаць і сказаць: "Пане, Ты ўсё ведаеш, Ты ведаеш, што люблю Цябе". Напэўна, кожны мой знаёмы памятае пра гэты дзень і віншуе мяне. Мне падабаецца ў святым Пятру, што ён быў вельмі простым. Але на яго была ўскладзена адказнасць за ўвесь Касцёл. Я пераконваюся таксама і ў сабе. Хоць я і слабы чалавек, але Госпад мае для мяне планы і хоча, каб я Яму служыў.



**Павел ПАДРЭЗ:**

– Святы Павел – адзін з самых значных святых Касцёла. Яго называюць апосталам народаў. Я вельмі цешуся з таго, што гэты святы з'яўляецца маім заступнікам.

Таму 29 чэрвеня для мяне асаблівы дзень. Дзень незвычайнай малітвы і незвычайнага разумення сапраўднай веры па прыкладзе святога Паўла. Калі ўспомніць навяртанне па дарозе ў Дамаск, прыходзіць думка пра тое, наколькі тонкія і незразумелыя шляхі нашага Пана. Адзін з самых актыўных знішчальнікаў хрысціянскай супольнасці становіцца найбуйнейшым абаронцам веры і вучэння Хрыста. Мяне вельмі ўражвае гэта якасць – цвёрдасць сваіх прынцыпаў і смеласць, якіх нам, у тым ліку і мне, так не хапае. А гэта асноўныя рысы для таго, каб, усё адкінуўшы, пайсці за Хрыстом. Святы Павел быў вельмі адукаваным чалавекам для свайго часу. І ўсе свае веды ён накіроўваў для распаўсюджвання і тлумачэння вучэння Езуса.

Калі мы чытаем радкі з паслання да Карынфян, не можам не захапляцца тым, наколькі тонка, зразумела і нават пазітыўна святы Павел піша пра любоў. І натуральна, крок за крокам, пазнаючы сэнс любові, усё больш даступнымі робяцца тыя словы. Так мог навучыць любіць толькі сам Езус, каб праз словы апостала дакладней кожнаму даносіць сэнс і прынцыпы любові.

Заўсёды ў малітве прашу трывалай веры, смеласці і розуму, якія былі ўласцівыя святому Паўлу.

Але гэта свята даводзіцца адзначаць аднаму. Напэўна, Госпад робіць гэта для таго, каб больш было часу паразважаць над асобай святога Паўла.

Кожны мае свайго святога заступніка. І кожны святы асаблівы. Мне вельмі прыемна, што святы Павел з'яўляецца маім заступнікам. І я бачу ў ім прыклад для свайго жыцця.



**Пётр ЦВЯЧКОЎСКІ:**

– На свята Пятра і Паўла я заўсёды прыходжу ў Касцёл, каб памаліцца за сябе, за тых, хто святкуе імяніны ў гэты дзень, за бацькоў, якія далі мне жыццё. Асабліва малюся да святога Пятра, просячы яго аб заступніцтве. Святы Пётр для мяне – гэта Апостал веры, адвагі, які мужна прапаведаваў Евангелле, зносіў праследы ў імя Езуса. Віншуюць мяне з гэтым святам родныя, блізкія, знаёмыя. А я іх у сваю чаргу запрашаю на гарбату. Віншуюць нават і браты праваслаўныя, калі яны ўспамінаюць святых Апосталаў. Гэта вельмі прыемна.



**Павел ЖАЎНЯРОВІЧ:**

– Свята апосталаў Пятра і Паўла я звычайна адзначаю ў пілігрымцы да Маці Божай Будслаўскай. Віншуюць мяне амаль усе знаёмыя, што ідуць разам. Гэта вельмі прыемна. А для мяне гэтае свята падвойнае яшчэ таму, што Пётр – маё другое імя. Сваіх святых Заступнікаў я ніколі не забываю і прыпамінаю іх у штодзённай малітве. Святыя Пётр і Павел – дзве розныя супрацьлегласці, якія дапаўняюць адна адну. Святы Павел быў вельмі адукаваным, а святы Пётр быў простым рыбаком. Але гэта не перашкаджала ім абвяшчаць Евангелле.

## Віншуем!

*Паважаны кс. Павел Самсонаў!*

*Ад усяго сэрца віншуем Вас з Днём імянін! Жадаем шчодрых дароў Духа Святога, Божага благаслаўлення ва ўсіх Вашых справах, моцнага здароўя і спаўнення ўсіх задумаў. Няхай Анёл Ахоўнік заўсёды чувае над Вамі, а Найсвяцейшая Маці Марыя атуляе сваёй матчынай апекай. Шчыра дзякуем за малітвы, цудоўнае навучанне і тлумачэнне Евангелля. Дзякуем за цудоўны голас і спевы!*

*Камілія Емяльянава, ад парафіян Дунілавіцкай парафіі і сяброў груп Сусветнай арганізацыі жывога ружанца Св. Філамэны*

## Віншуем!

*Сардэчна віншуем сястру Валянціну Арсоба з Днём нараджэння! Жадаем моцнага здароўя і ўсіх Божых ласкаў.*

*Сястра Валянціна! Дзякуем за Вашыя залатыя рукі, пяшчотнае сэрца і настойлівы характар. Молімся за Вас і моцна любім!*

*Парафіяне касцёла св. Андрэя Баболі ў Полацку*

## Канікулы з Богам у Пятроўшчыне

**с. Алена Сурвіла**

**З 19 па 27 чэрвеня ў в.Пятроўшчына, што на Глыбоччыне, адбыўся летнік для моладзі з Глыбоцкай парафіі. 35 маладых людзей, у тым ліку прадстаўнікі з Дзеркаўшчыны, Дунілавіч і Празарок разам з сястрой-францішканкай Сям'і Марыі Аленай Сурвілай і кс. Віталем Гальцам праважывалі гэты цудоўны час летняга адпачынку.**

Праз удзел у святой Імшы, катэхезе, працы ў групах, забавах, прагулках, конкурсах моладзь яшчэ больш пазнавала Бога і ўмацоўвалася ў сяброўстве.

Адпачынак вельмі важны, але таксама трэба і ўмець адпачываць. А ці не з'яўляецца найлепшым такі адпачынак, калі ён звязаны з Богам?...

Хочацца пажадаць моладзі, каб заўсёды крочыла з Богам, а таксама ўмела з Ім адпачываць і бачыць у Ім свайго найлепшага Настаўніка і Сябра.



# Гістарычнасць Езуса: ці верыць фактам?

■ кс. Андрэй Рылка

Гэта была выпадковая (з Божага Провіду) сустрэча з пэўным настаўнікам-атэістам, жонка якога – каталічка – прывяла яго на размову са святаром. Як толькі загаварылі пра Езуса, ён нясмачна скрывіўся і выпаліў: "Што вы мне тут байкі расказваеце?! Езус – гэта прыгожая казка! А Біблія – набор старажытных міфаў!" Мне нічога не заставалася, як толькі спытацца: "А чаму вы так думаеце?" І ён збянтэжыўся. Яго раптоўна асвяціла, што ён, настаўнік вышэйшай катэгорыі, крытычны і рацыянальны, усе свае перакананні пра Бога засноўвае на бескрытычнай веры ў тое, што пісала савецкая прапаганда. Як жа ён быў здзіўлены, калі даведаўся, што існуюць цэлыя навуковыя інстытуты, якія даследуюць гістарычнасць Хрыста, навуковую кашоўнасць і праўдзівасць біблейскіх тэкстаў. Назіраючы за тым, як на працягу размовы раз'яснялася абліччa гэтага чалавека, мне падумалася, што шмат яшчэ ў нашай краіне людзей, каторыя вельмі добра знаёмы з казачным Езусам з атэістычнай літаратуры, але зусім не ведаюць рэальнага Езуса і тое, што пра Яго адкрыла вера і навука.

## Адкуль мы ведаем пра Хрыста?

Галоўная крыніца інфармацыі пра Езуса – гэта Біблія, асабліва чатыры Евангеллі. Але для асобы, крытычна настаўленай да Святога Пісання, высокую навуковую каштоўнасць маюць нехрысціянскія сведчанні старажытных гісторыкаў і вучоных. Пра наяўнасць такіх крыніц добра ведаюць спецыялісты, але мала – нават самі хрысціяне. А ў наш час, калі з розных бакоў расказваецца столькі хлусні пра Хрыста і веру, варта вернікам, прынамсі, ведаць, што такія дакументы ёсць. Веды аб іх можна выкарыстаць як сур'ёзны аргумент у дыскусіі з тымі, хто не давярае біблейскім крыніцам. Калі нехта сумняваецца ў сведчанні Біблії, то, калі ласка, ёсць нехрысціянскія (староннія) крыніцы, якія таксама пацвярджаюць гістарычнае існаванне Хрыста і праўдзівасць біблейскага пераказу.



## Што пісалі пра Езуса сучаснікі?

Сярод нехрысціянскіх гістарычных крыніц адносна Езуса вялікую каштоўнасць мае сведчанне Тацыта (55-120 г.) – аднаго з найбольш аўтарытэтных і дакладных гісторыкаў старажытнасці. Апісваючы дзеі свайго часу ў т. зв. "Гадавінах" (Annales, XV, 44), гэты аўтар паказвае, як рымскія ўлады пераследавалі хрысціянаў (chrestianos), паслядоўнікаў нейкага Хрыста (Christus), закатаванага Понціем Пілатам.

Цікавыя звесткі пра Езуса падаў Талас з Самарыі (Thallos), які быў сучаснікам апосталаў і ў сваіх "Хроніках" палемізаваўзхрысціянамі. Між іншым, гэты аўтар імкнуўся даказаць, што зацьменне сонца падчас укрыжавання Хрыста магло быць звычайным супадзеннем, зусім не звязаным з асобай Езуса.

Чарговы аўтар – Святоній (Svetonius Tranquillus, 85-160 г.) – біёграф рымскіх цэзараў. У "Жыцці цэзараў" (Vita Caesarum) ён узгадвае пра небяспечную веру хрысціянаў, якіх Хрыстус падбухторвае да непаслухмянасці рымскім уладам. Той жа аўтар падаў цікавыя звесткі пра апостала Паўла і жыццё першага пакалення Хрыстовых вучняў.

Важныя звесткі пра Езуса пакінуў рымскі гісторык і палітык Пліній Малодшы (Plinius Minor, 62-114 г.). Захаваліся лісты Плінія да цэзара Траяна, у якіх ён просіць парады адносна хрысціянаў, што пакланяюцца чалавеку па імені Хрыстус як Богу і маюць дзіўную мараль, заснаваную на безумоўнай міласэрнасці.

Найбольш багатыя звесткі пра гістарычнага Езуса знаходзім у гісторыка Язэпа Флавія (Josephus Flavius, 37-101 г.). У сваёй кнізе "Габрэйскія старажытнасці", апісваючы падаўленне Пілатам габрэйскіх бунтаў, ён пісаў: "У той час жыў Езус, муж надзвычай мудры, калі ўвогуле можна назваць яго чалавекам. Бо ён чыніў незвычайныя знакі і быў праваднікам тых, хто з радасцю прымаў праўду. Пайшло за ім шмат габрэяў, як і язычнікаў. Ён быў Хрыстом. Пілат асудзіў яго... На трэці дзень пасля смерці ён зноў з'явіўся як жывы..." (Antiquitates Iudaicae, 18, 3, 3).

Акрамя узгаданых вышэй крыніц, існуюць шматлікія больш дробныя і ўскосныя згадкі пра Езуса ў іншых старажытных нехрысціянскіх помніках. Усе яны – важныя доказы таго, што Хрыстус – рэальная гістарычная постаць і што Біблія апісвае праўдзівыя факты.

## Ці верыць фактам?

Тым, хто сумняваецца ў праўдзівасці хрысціянскага сведчання пра Езуса, варта, прынамсі, згадзіцца з гістарычным фактам. Калі нехта жадае пайсці далей у пошуках праўды пра Езуса, то яму раней ці пазней давядзецца стаць на раздарожжы: прызнаць факты, але не рабіць з іх ніякіх высноў, або пайсці да канца. Мой знаёмы настаўнік пайшоў далей, бо не перастаў шукаць праўду. Чым больш ён адкрываў, тым больш разумеў, што трэба зрабіць найважнейшы крок у сваім жыцці: перайсці ад ведаў да веры. Бо факты паказвалі на тое, што Езус у гісторыі – гэтай той самы Езус, які няспынна жыве і дзейнічае ў Сваім Касцёле.

---

ПЫТАННЕ СВЯТАРУ

# Чаму магія – зло?

***Чаму Касцёл адмоўна ставіцца да любога праяўлення магіі? Як дапамагчы чалавеку, што меў кантакт з варажбіткамі і цяпер, запалоханы, перажывае духоўны крызіс?***

*Андрэй, г. Астравец*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель, рэдэмптарыст:**



— Ва ўсе часы гісторыі чалавецтва мы сутыкаемся з наяўнасцю ў кожнай культуры, кожным грамадстве пэўнай часткі людзей, якія дэкларуюць наяўнасць у іх некаторых звышнатуральных здольнасцей і магічнасці кіраваць сіламі прыроды. Гэта мы можам назіраць таксама ў біблейскіх тэкстах як Старога, так і Новага Запавету (напр., Вых. 7, 11; Іс. 47, 12; Дан. 2,2; Дз. 8, 9; 16, 16). Магія, чарадзейства і вяшчунства былі шырока пашыраныя сярод суседніх Ізраілю язычніцкіх народаў. Таму ўжо ў Старым Запавеце часта гучыць Божы наказ, які забараняе Божаму люду звяртацца да магічных практык: *"Не звяртайцеся да заклінальнікаў мёртвых, і да чарадзеяў не хадзіце, і не даводзьце сябе да апаганьвання імі. Я Госпад, Бог ваш"* (Ляв. 19, 31), *"і калі якая душа павернецца да заклінальнікаў мёртвых і да чарадзеяў, каб аблудна хадзіць па слядах іхніх, дык Я павярну абліччa Маё на тую душу і знішчу яе з народу яе"* (Ляв. 20,6); *"не павінен быць у цябе той, хто праводзіць сына свайго альбо дачку сваю праз агонь, ні вяшчун, ні варажбіт, ні чарнакніжнік, ні чарадзей, ні змуснік, які заклінае духаў, ні чараўнік, які апытвае нябожчыкаў, бо агідны перад Госпадам кожны, хто робіць гэта, і якраз за гэтыя мярзоты Госпад, Бог твой, праганяе іх ад абліччa твайго; будзь бясхібны перад Госпадам, Богам тваім"* (Друг. 18, 10-13).

### Зло чарадзейства

З тэкстаў Святога Пісання становіцца таксама зразумелым, у чым палягае зло чарадзейства і вяшчунства. Прарок Ісая непасрэдна ўказвае, што магічныя практыкі выступаюць альтэрнатываю веры ў Бога: *"І калі скажуць вам: звярніцеся да заклінальнікаў духаў памерлых і да чарадзеяў, да шаптуноў і нутрамоўцаў, – тады адказвайце: ці не павінен народ звяртацца да свайго Бога?"* (Іс. 8, 19). Апостал Павел ставіць чарадзейства ў адзін шэраг з іншымі "ўчынкамі цела", сярод якіх таксама пералюбства, блуд, нячыстасць, непатрэбства, ідаласлужэнне, варожасць, звады, зайздрасць, гнеў, раздоры, ерасі (Гал. 5, 19-20). Чарадзейства, падобна як і названыя "ўчынкі цела", зводзіць чалавека ад праўды і святла, укідвае ў вір забабонаў і цемнату розуму. З гэтай прычыны апостал звяртаецца да верных: *"Вось пра гэта кажу і сведчу ў Госпадзе, каб вы ўжо не хадзілі так, як паганцы, што ходзяць у марнасці розуму свайго, маючы цьмяныя думкі, аддаленыя ад жыцця Божага, дзеля няведання, каторае трывае ў іх праз асляпленне іхняга сэрца"* (Эф. 4, 17-18).

Айцец Касцёла св. Васіль Вялікі на гэты конт таксама піша: "Тыя, што прыляпіліся да ідалаў, слухаюць сны і чарадзейства дэманаў і самі пагарджаюць праўдай, і нам раяць шукаць падобнага, бо гэтая аблуда робіцца дэманамі, якія ў снах атачаюць чалавека нейкімі летуценнямі, або даюць параду, як пазбавіцца ад цялеснай немачы, або абвяшчаюць будучыню. А дэманы могуць прадугледжваць падобныя рэчы: датычна цялесных немачаў – таму што лепш за нас пранікаюць ва ўласцівасці рэчаў; датычна ж будучыні прадказваюць, што ўжо здзейснілася; але паколькі гэта нам яшчэ невядома, то абвяшчаюць нам пра гэта, як пра будучыню". Мы бачым, св. Васіль Вялікі атаясамлівае чарадзейства з дзеяннем дэманаў, што пацвярджаецца прыкладамі са Святога Пісання. Так, у Філіпах ап. Павел выганяе з дзяўчыны духа, каторы варажыў, пасля чаго яна траціць свой "дар" (Дз. 16, 16-19).

### Адказ Касцёла

Падобным чынам у сучасным свеце мы часта можам пачуць сведчанне пра варажбітак, адкуль яны атрымалі свой "дар". Як правіла, "дар" перадае перад смерцю камусьці з жывых той, хто яго мае. На самай жа справе мы маем справу з дэманам, які дзейнічае праз чалавека, так, як гэта было ў выпадку з дзяўчынай, з якой ап. Павел выгнаў духа. Менавіта таму Катэхізіс Каталіцкага Касцёла выразна сцвярджае: "Любое ўжыванне магіі або чарадзейства, з дапамогай якіх спрабуюць прыручыць акультныя сілы, каб карыстацца імі і валодаць звышнатуральнай уладай над бліжнім – нават для таго, каб даць яму здароўе, – сур'ёзна супярэчыць рэлігійнай дабрадзейнасці. Такога кшталту практыка тым больш заганная ў выпадку, калі да яе звяртаюцца з намерам пашкодзіць камусьці ці калі гаворка ідзе пра ўмяшанне дэманаў" (ККК 2117).

### Як уратавацца?

Часта людзі, шукаючы хуткага шчасця, жадаючы атрымаць усё і адразу, свядома ці несвядома звяртаюцца да падобных "памочнікаў". У лепшым выпадку яны трапляюць на шарлатанаў, якія, карыстаючыся людской цікаўнасцю і даверлівасцю, проста зарабляюць сабе на жыццё. Іншая справа, калі сустрэча адбываецца з чалавекам, які мае ў сабе духа. Трэба выразна ўсведамляць, што ніколі д'ябал не дае нічога за так, і ніколі тое, што ён дае, не прывядзе чалавека да шчасця. Св. Васіль Вялікі раіць шукальнікам лёгкага шчасця ці хуткага вырашэння праблемаў: *"Выконвай загаданае законам Божым і чакай насалоды з дабра. Шануй бацьку твайго і маці тваю, як загадаў табе Госпад, Бог твой, каб падоўжыліся дні твае, і каб добра было табе на той зямлі, якую Госпад, Бог твой, дае табе"* (Друг. 5, 16).

"Хочаш дабра? Выконвай загаданае. Не пытайся ў празарліўца пра здароўе, але прымі лекара, што прапаноўвае для здароўя сродкі, якія ёсць у тваёй уладзе. Чаму навучышся ў іншага? Ні адзін вяшчун не дае неўміручасці, ні адзін не ўзводзіць на неба, ні адзін не паставіць цябе перад Суддзёю без страху".

Разам з тым, кожны чалавек у штодзённым жыцці можа звесці да мінімуму ўздзеянне сатаны на сябе і іншых. Вялікую духоўную карысць прыносіць рэгулярнае практыкаванне з верай і пабожнасцю царкоўных сакрамантаў, асабліва споведзі, удзел у набажэнствах і прыняцце Эўхарыстыі, жыццё паводле Евангелля, чытанне Святога Пісання, духоўная фармацыя ў супольнасці (парафіі), кожная пакорлівая малітва з даверам і хадайніцкая малітва за бліжніх, сакраманталіі і блаславенні, якія дапамагаюць у духоўнай барацьбе. Д'ябал не можа нашкодзіць чалавеку, які жыве з Богам, які прымае ў сябе Хрыста ў Эўхарыстыі, таму што *"вы, дзеткі, ад Бога і перамаглі іх, бо важнейшы Той, Хто ў вас, ад таго, хто ў свеце"* (1 Ян. 4, 4). Чалавеку, які пацярпеў ад чарадзейства, трэба звярнуцца да Бога і пачаць хрысціянскае жыццё.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага блаславення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Чэслава Кіжло** (в. Шуневічы, Глыбоцкі р-н), **сям'я Ракуцкіх** (г. Браслаў), **Аліцыя Т.** (г. Паставы), **М.В. Матус** (г. Валожын), **Ганна Сапель** (г. Браслаў), **Вольга Парневіч** (агр. Крулеўшчына), **Марыя Пляхімовіч** (г. Ліда), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Сцепаніда Лупач** (в. Завараты, Глыбоцкі р-н).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

**Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку!** Раскажыце сваім родным і знаёмым пра "Каталіцкі Веснік". Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

Увага! Наступны нумар "Каталіцкага Весніка" выйдзе ў другой палове жніўня.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

Барысаў

# Месца для душы

**Ёсць у Барысаве месца, дзе гартуешся сам, дзе адпачывае твая душа, дзе табе заўсёды рады. Гэта касцёл.**

**Валянціна Серая**, *г. Барысаў*


кс. Вячаслаў Пялінак у пілігрымцы.

Сваю гісторыю ён пачынае з XVII стагоддзя. Стараста Адам Казановіч пабудаваў яго на былой Мінскай вуліцы. Гэты драўляны будынак прастаяў 150 гадоў і быў знішчаны агнём у 1806 годзе. Будаўніцтва новага касцёла доўжылася 17 гадоў і завяршылася ў 1823-ім.

У 1836 годзе праводзіліся работы па ўпрыгожанні фасада святыні. Касцёл стаў сведкам паўстання 1863 года, пацярпеў ад пажару ў 1900-ым, перажыў рэвалюцыю 1917 года і іншыя трагічныя падзеі. Калі знікла ўся касцельная маёмасць, будынак выкарыстоўваўся ў якасці сховішча. Пасля вайны быў кінатэатрам, спартыўнай залай, нейкі час увогуле пуставаў.

Барысаўскі касцёл 14 ліпеня 1990 года быў асвечаны біскупам Тадэвушам Кандрусевічам. Пачаўся новы этап адраджэння касцёла. У жніўні 1990 года з Польшчы ў Барысаў прыехаў святар Юзаф Пятушка, якога ведаюць і любяць усе парафіяне. Ксёндз Юзаф нарадзіўся ў 1932 годзе ў Заходняй Беларусі, жыў у Польшчы, атэстат сталасці атрымаў у Варшаве. Скончыў Варшаўскі і Люблінскі ўніверсітэты, атрымаў спецыяльнасці тэолага і гісторыка, валодае некалькімі еўрапейскімі мовамі.

Добрая ўсмешка, высокае аратарскае майстэрства, вялікі розум вызначаюць а. Вячаслава Пялінка, які ў канцы 2008 года прыехаў у наш горад. За яго плячыма Гродзенская духоўная семінарыя, Люблінскі каталіцкі ўніверсітэт, Рымскі Грыгарыянскі ўніверсітэт, належыць да ордэна Марыянаў, валодае некалькімі замежнымі мовамі. Для кожнага ў яго свой падыход, ласкавая ўсмешка. Крылы вырастаюць ад размовы з ім, ад яго планаў і турбот за нас.

Шматгранная праца праводзіцца ў нашым касцёле айцамі Юзафам і Вячаславам: купля будматэрыялаў, рамонт, арганізацыя паездак, прынятне гасцей у парафіі, падрыхтоўка і святкаванне розных падзей, заняткі па замежнай мове для моладзі. Падчас паездкі ў Вільню ў снежні 2012 года мы наведалі Вострую Браму, Замкавую гару, плошчу Гедыміна. Айцец Вячаслаў як гісторык і экскурсавод вельмі цікава нам расказваў пра гэтыя мясціны.

Заўсёды навідавоку і ў руху сёстры, якія прысвяцілі сябе Богу і Касцёлу: арганістка Тацццяна, катэхетка Рэгіна, закрыстаянка Тацццяна. Дзякуючы ім можна паслухаць арганную музыку, паўдзельнічаць у прыгожым святкаванні. Вялікая работа праводзіцца з моладдзю: удзел у FSE (Федэрацыя скаўтаў Еўропы), духоўнае і фізічнае выхаванне, дзіцячы і дарослы хор, пілігрымкі ў Рым, у Росіцу і г. д.

Мы вельмі ганарымся Вамі, дарагія нашы настаўнікі. Жадаем здароўя, вялікага шчасця і каб Вы заўсёды асвячалі наш шлях.

Ногі самі бягуць у касцёл. Тут не думаеш пра нягоды, тут не баляць раны і душа, бо побач Бог і Яго вучні. У храм хочацца ісці кожны дзень, прасіць дапамогі ў Бога. Дзверы святыні заўсёды адчынены. Усім тут добра і ўтульна, кожны знаходзіць для сябе тое, што шукае для душы і сэрца.

## ПЫТАННЕ СВЯТАРУ

# Ці будуць збаўленыя самагубцы?

*Ці можа самагубца разлічваць на збаўленне?*
*Алеся, 17 гадоў*

**На пытанне адказвае кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS, парафія Святога Духа, г. Віцебск:**

– Згодна з вучэннем Касцёла, самагубства – гэта грэх супраць пятай запаведзі: „Не забівай". Чалавек, што ўчыніў самагубства, забівае сябе і гэтым ускладае на сябе смяротны грэх. Паміраючы ў смяротным граху, асуджае сябе на пекла.

Даследаванні ў галіне псіхалогіі выявілі, што большасць самагубцаў у момант самазабойства не ўсведамляюць, што робяць, знаходзяцца ў вялікай пачуццёвай дэпрэсіі і ў такім стане не могуць адказваць за ўчыненае. Здаровы чалавек заўсёды будзе „захоўваць" сваё жыццё. Самагубцам лічыцца псіхічна хворы чалавек, які ў дадзены момант не справіўся са сваімі пачуццямі, страхамі, што ўзялі верх над ім, кіравалі ім.

Як гэта зразумець? Паспрабуем разгледзець сітуацыю канкрэтнага чалавека, канкрэтнага самагубцы. Ён учыніў смяротны грэх. У той жа час, верагодна, ён не ведаў, што робіць. Гэта значыць, няма ні адной з умоваў, згодна з якімі грэх лічыцца смяротным. У такім выпадку справа аб яго збаўленні або праклёне не з'яўляецца пэўнай. Нават можна сказаць, што чалавек мае шанец на збаўленне.

Гэта навука Касцёла. Але лепш нашыя душы ведае Бог, ведае нашыя грахі, учыненыя свядома ці несвядома. Ён ведае, чаму хтосьці вырашыўся на самагубства.

Варта памятаць, што мы можам маліцца за душы памерлых, нават самагубцаў, каб Бог адарыў іх ласкай збаўлення.



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**7 ліпеня 2013 г. Лк 10, 1-12, 17-20**

Езус прыйшоў у свет,каб паяднаць нас з Айцом. Бог хоча,каб мы былі ў еднасці з Ім. Каб мы будавалі Божае Валадарства, г.зн. Жыццё Бога ў нас і паміж намі. Хоча, каб мы ўдзельнічалі ў вечным шчасці. Шатан перашкаджае планам Божай любові. Нападае на чалавека, часцей за ўсё праз спакусы. Хоча адвесці чалавека ад дарогі любові. Адбываецца духоўная барацьба за людскія душы і Божае Валадарства ў іх. Езус – Пан і Пераможца. Але калі чалавек не прымае Езуса, то застаецца безабаронным супраць ненавіснага драпежніка, які яго знішчае. Трэба прымаць Езуса да свайго жыцця і прымаць Яго запрашэнне, якое Ён дае нам праз сваіх пасланцоў, г.зн. праз Святы Касцёл.

*– Ці не спрабую служыць двум гаспадарам?*

*– Ці змагаюся за еднасць з Езусам?*

*– Ці дбаю пра чыстасць сэрца, каб прымаць Святую Камунію?*

*– Ці разумею, што без Езуса ў сэрцы я безабаронны?*

*– Ці разумею, што праз чары, магію, жыццё ў цяжкім граху адчыняю шатану дзверы ў сваё сэрца?*

*– Ці хачу жыць у любові?*

*– А можа, хочу толькі, каб мне было добра і спакойна?*

*– Ці ўдзельнічаю ў барацьбе за сваю душу?*

*– Ці трываю пры Езусу?*

*– Ці прымаю Божыя натхненні?*

*– Ці карыстаюся Божымі ласкамі?*

*– Ці клапачуся пра душы маіх братоў?*

*– Ці разумею трагічныя наступствы таго, што не прымаю Езуса да свайго сэрца?*

**14 ліпеня 2013 г. Лк 10, 25-37**

Наш удзел у Божым Валадарстве звязаны не толькі з нашымі адносінамі да Бога, але таксама і нашымі адносінамі да іншых людзей. У стасунках з людзьмі бываюць цяжкасці і непаразуменні, але гэта – Божая справа. Ён дапаможа знайсці дарогу да сэрца іншага чалавека або хаця б захаваць адносіны, якіх чакае ад нас. Міласэрны самаранін – узор міласэрных адносін да бліжняга. Ён заўважае няшчасце бліжняга. Умее паспачуваць бядзе. А таксама, у адрозненне ад іншых удзельнікаў прыпавесці, асабіста дапамагае гэтаму бліжняму.

*– Як выглядае мая любоў да Бога, да бліжняга, да самога сябе?*

*– Ці шукаю дапамогі ў Бога, каб любіць людзей?*

*– Ці заўважаю патрэбы іншых?*

*– Ці з'яўляюся ўражлівым, ці спачуваю?*

*– Што канкрэтна я раблю, каб дапамагчы бліжняму?*

**21 ліпеня 2013 г. Лк 10, 38-42**

Езус прыйшоў абвяшчаць Божае Валадарства. Слухаць Яго – гэта найлепшая частка. Клапоцімся і турбуемся пра шматлікія справы. Не заўважаем Божай волі. "Забеганыя", мяркуем: Бог хоча таго, што мы надумалі нашымі малымі галовамі. Але Ён мудрэйшы.

*– Ці задумваюся кожны дзень, што хоча ад мяне Езус?*

*– Ці стараюся жыць паводле Яго волі?*

*– А можа, я лепш ведаю, як жыць? І нават не пытаюся ў Яго?*

*– Ці ўсе мае клопаты і турботы падпарадкаваныя Яго волі? Магчыма, некаторыя лішнія? Каторыя?*

**28 ліпеня 2013 г. Лк 11, 1-17**

Езус – Настаўнік малітвы. Малітва" Ойча наш" – гэта духоўная праграма і ўзор малітвы. Бог хоча, каб мы да Яго звярталіся як да свайго Айца. Прагне, каб мы на малітве вучыліся праслаўляць Яго Імя. Хоча каб у нас і паміж намі. Хоча, каб мы з Ім абмяркоўвалі нашы штодзённыя справы. Каб мы прасілі міласэрнасці і вучыліся прабачаць. Каб мы ў час малітвы змагаліся са злом. Ён нам дае тое, што нам патрэбна. Хоча, каб мы прасілі ў Яго дар Святога Духа – нашага праваднiка. Ён хоча, каб мы шукалі, прасілі, стукалі ў час малітвы. Гэта на малітве знаходзім сэнс і дарогу жыцця.

*– Як выглядае мая малітва?*

*– Ці захоўвае мая малітва тыя элементы, якія Езус паказаў нам у малітве "Ойча наш"?*

*– Ці шукаю, ці стукаю, ці прашу?*

*– Дзе раблю гэта?*

*– Ці іду да Бога ў сваіх пошуках? Магчыма, шукаю ў свеце?*

*– Ці разумею, што Божы Дух – адказ на ўсе мае пошукі?*

*– Ці Ён – сэнс майго жыцця?*

**4 жніўня 2013 г. Лк 12, 13-21**

Людзі часта вераць, што іх жыццё залежыць ад маёмасці. Яна становіцца іх богам. Прагнем яе, а не сапраўднага Бога. Але з любой маёмасцю давядзецца развітацца ў час смерці. Трэба багацець перад Богам, бо ў такога багацця будучыня.

*– Як я стаўлюся да матэрыяльных даброт?*

*– Ці не абагаўляю іх часам?*

*– Чаго хачу ў гэтым жыцці?*

*– На чым грунтуецца мая надзея на будучыню?*

*– На што спадзяюся пасля смерці?*

**11 жніўня 2013 г. Лк 12, 32-48**

Бог хоча зрабіць нас удзельнікамі свайго жыцця. Для таго, каб здабыць гэты скарб, трэба прыкласці намаганні. Трэба прыкласці сэрца для пошукаў Бога ў нас і паміж намі. Ён прыйдзе неспадзявана і дапоўніць шчасце жыцця з Ім прабываннем у шчасці вечным. Трэба клапаціцца, каб Яго Валадарства было ў нас. Каб мы былі ў еднасці з Ім, гатовыя на спатканне са смерцю.

*– Ці змагаюся за тое, каб Бог валадарыў у маім сэрцы?*

*– Ці Яго прысутнасць – гэта скарб для мяне?*

*– Ці стараюся жыць паводле Яго волі?*

*– Ці дбаю, каб не жыць у смяротным граху і ці імкнуся да Святой Камуніі?*

*– Ці рыхтуюся да смерці?*

**18 жніўня 2013 г. Лк 12, 49-53**

Езус прыносіць агонь любові. Але, на жаль, не ўсе хочуць яго прыняць. Гэта з'яўляецца прычынай падзелу паміж людзьмі.

*– Ці прымаю любоў Езуса?*

*– Ці жыву паводле закону любові?*

*– Ці палымнею агнём любові?*

*– Ці не зняважаюся, калі бачу, як хтосьці не прымае гэту любоў?*

*– Ці з'яўляецца Езус маім штодзённым узорам любові?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Адпуст св. Яна Хрысціцеля ў Мосары



**Падчас парафіяльнага Адпуста святога Яна Хрысціцеля 22-23 і 24 чэрвеня шмат пабожных людзей сабралася ў мосарскім касцёле, знаходзячы палёгку ў цярпеннях, здароўе, вызваленне ад алкагольнай залежнасці, Божую ласку і бласлаўленне, аб якіх прыходзілі прасіць святога Юстына і святога Яна Хрысціцеля – мучанікаў. 22 чэрвеня ў в. Мосар адбылося таксама чарговае хрысціянскае «Купалле» з абрадамі, спевамі і забавамі.**

■ **кс. Аляксей Юркайць**, *тэкст;*
**Леанід Юрык, Марына Сінкевіч**, *фота*

Айцец Тамаш Міка, манах ордэна дамініканаў з Віцебска, на працягу двух дзён святкавання служыў у канфесіянале і прамаўляў прыгожыя навукі для вернікаў. Ва ўрачыстасцях прымалі ўдзел ксёндз Ян Крэміс з Мінска, ксёндз Пётр Пятрага з Касцяневічаў і айцец Вальдэмар Куява – францішканін з Удзела.

Вернікі адчулі яскравае сведчанне прыгажосці і ўзнёсласці хрысціянскай Літургіі ва ўсходнім абрадзе падчас Акафісту да святога Яна Хрысціцеля, які праводзілі айцец Дзмітрый і айцец Аляксандр, што ўдзельнічалі ва ўрачыстасці разам з хорам Уніяцкай царквы з Віцебска і Полацка.

Падчас святкавання адбывалася Ружанцовая малітва за сем'і, моладзь і дзяцей каля Мосарскіх капліцаў, малітва падзякі перад рэліквіямі святога мучаніка Юстына за скарб хрысціянскай веры і літанія да святога Юстына. А ўвечары дзякуючы дапамозе раённай улады ўсе ахвотныя прынялі ўдзел у святкаванні "Купалля" – у народным гулянні.

Урачыстую Святую Імшу ўзначаліў ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, які стаяў ля вытокаў адраджэння святыняў Глыбоччыны. Шмат радасці адчулі вернікі, вітаючы на свяце "свайго" пастыра, які калісьці, у тыя яшчэ камуністычныя часы напрыканцы 1980-ых гадоў у Мосары, Удзеле, Глыбокім, а таксама ў іншых навакольных касцёлах і капліцах праводзіў доўгачаканую Святую Імшу, хрысціў, вянчаў... Прайшло ўжо каля 25 гадоў і ксёндз Уладзіслаў Завальнюк зноў наведаў Мосар.

Падчас Святой Літургіі ксёндз Уладзіслаў у глыбокім змесце гаміліі ўзняў шмат тэмаў: "... У свеце чалавек сутыкаецца са шматлікімі падзеламі, а Бог яднае чалавека ў сям'і, на працы, у грамадстве і між народамі. Адзіная чалавечая сям'я патрабуе Бога, Які нам дае сваё Слова – Езуса Хрыста. І усе мы, захоўваючы і развіваючы нашую веру, духоўна ўзрастаем, узбагачаемся, робімся больш шляхетнымі і дасканалымі. Як марнатраўны сын, так і кожны з нас без Бога не можа быць шчаслівы. Без Бога няма народу, культуры, адукацыі...

Твар марнатраўнага сына з твора Рэмбранта – гэта твар кожнага чалавека, які ў сваёй істоце без Айца Нябеснага не знаходзіць шчасця ў свеце. Вяртаецца, кленчыць і абдымае Яго калені. А Айцец яго вельмі любіць, прымае і хоча бласлаўляць.

...Падобна да святога Яна Хрысціцеля, які паказаў свету Збаўцу, нашыя продкі нам перадалі каштоўны скарб веры. Мы памятаем, дзякуем і молімся за ўсіх, хто нам паказаў Збаўцу!!!

Усучасным свеце кожны з нас, прыняўшы Бога ў сваё сэрца, становіцца сучасным "Янам Хрысціцелем" і паказвае бліжняму шлях да сапраўднага жыцця!"

Напрыканцы Святой Літургіі ксёндз Аляксей Юркайць – адміністратар парафіі – падзякаваў вернікам з наваколля за шчырую веру і малітву.

Усе прысутныя на свяце былі вельмі ўсцешаныя і, ушанаваўшы святыя рэліквіі, як і штогод, адчулі супакой і прынялі Божую ласку, каб праз год зноў прыйсці да святога алтара ў мосарскім касцёле і ўзнесці малітвы падзякі, праслаўлення і просьбы да Усемагутнага і Найвышэйшага Бога праз заступніцтва святых мучанікаў.



**На здымку:** кс. Аляксей Юркайць запальвае купальскае вогнішча.

# Прыгажуні Весніка




**Дарагія сябры! Завяршыўся конкурс прыгажосці, які праводзіла наша газета. Па выніках рэдакцыя прысудзіла тытул "Прыгажуня Весніка" ўсім удзельніцам. Усе нашыя прыгажуні атрымалі спецыяльны прыз па пошце: свой фотаздымак з тытулам "Прыгажуня Весніка".**

Па выніках анлайн-галасавання мы таксама вызначылі пераможцаў, якія набралі па 7 і больш працэнтаў галасоў. Такім чынам, у нас ёсць чатыры прыгажуні, у якіх была найбольшая падтрымка сярод інтэрнэт-карыстальнікаў. Месцы размеркаваныя наступным чынам:

**1-е месца: Таццяна Глазко**, *г. Астравец;*

**2-е месца: Ірына Грэйць**, *г. Астравец;*

**3-е месца: Вікторыя Колзун**, *г. Віцебск;*

**4-е месца: Таццяна Дзегцярова**, *в. Дунілавічы.*







Пераможцы конкурсу прыгажосці атрымалі, акрамя фотаздымкаў, і дадатковыя прызы: камп'ютарныя аксэсуары і падпіску на газету "Каталіцкі Веснік". Сёння мы друкуем фота гэтых нашых удзельніц.

Мы вельмі рады, што конкурс зацікавіў так шмат людзей. Пераканаהныя, што мэта конкурсу – паказаць прыгажосць беларускіх дзяўчат і жанчын у сціпласці – была дасягнутая. Усім дзякуем за смеласць і жаданне прыняць удзел у нашым мерапрыемстве.

Гэта не апошні конкурс, які арганізавала газета "Каталіцкі Веснік". У нас яшчэ шмат планаў і ідэй! Сачыце за анонсамі і заставайцеся з намі!

*Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"*




Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дэяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога, Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 5156

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 08.07.2013 г. у 21.28

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ